№ 48. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:
на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакції: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:
на 4-ай старане за радок дробными літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 48 (140). Год II. Вільня, 15 чэрвеня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## 14 чэрвеня.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: У Фляндры і Артуа—сільная артылерыйская бітва на паадзінокіх адрэзках. На ўсходзі ад Іпра мы ўзарвалі міны, ўчыніўшые апусташэньня на англіцкіх пазыціях.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: На паўночным усходзі ад Суассон французы атакавалі, але былі адбіты.

---

Эскадра нашых вялікіх самалётаў атакавала ўчора ў палудзень Лондон і скінула бомбы з добрай удачай. Ня гледзячы на сільны зашчытны агонь і бітвы на паветры, ў часі каторых адзін англіцкі лятун зваліўся ў Тэмзу, ўсе самалёты вярнуліся назад.

**Усходні тэатр:**

Баевая чыннасць — звычайнай меры.

Расейскіе лятуны у апошнім часі былі больш чынны і многа разоў лёталі за нашы лініі. Ад пачатку чэрвеня у іх збіты пяць самалётаў.

На скінутые на Туккум бомбы мы адказалі налётам на Шлок.

---

ШТОКГОЛЬМ. Офіцыоз пецярбурскай рады раб. і салд. «Ізвестія» у нумэры з 29 мая у аднэй стацьці даводзіць, што слово „анэксія" тлумачаць зусім неправільна. Яўные і тайные імпэрыялісты гавораць аб папраўцы граніц, аб вызваленьні народаў і звароці калісь адарваных зямель да іх старой бацькаўшчыны. Калі прыняць гэткае тлумачэньне, дык, значыцца, трэба ваеваць датуль, пакуль немцоў не адкінуць да Брандэнбурга, Францію — да Іль дэ Франс, а Расею—да граніц Маскоўскаго Вялікаго Князьства, а гэта была-бы вайна без канца. Расея хочэ скораго міра і, калі на сваім штандары выпісала кліч „мір без аннэксій", дык пад аннэксіямі ўважала прылучэньне зямель, якіе перад пачаткам вайны належалі да другой дзержавы.

ЛЮГАНО. Пецярбурскі карэспандэнт газэты «Stampa» даносіць, што Керэнскій напружае ўсе сілы, каб падбіць салдатоў да далейшай вайны. Нідаўна Керэнскій сказаў: „Калі і мне больш ня вераць, дык прыйдзе дыктатар, каторы задушыць недавер'е штыкамі".

ШТОКГОЛЬМ. Расейская Костромская губэрня сьледам за Кронштадтам аб'явіла сябе за рэспубліку.

БЭРН. Пецярбурскі карэспандэнт «Daily News» даносіць аб пасылцы расейскай радай раб. і салд. ультіматума саюзьнікам, у каторым ідзе гутарка аб справе міра.

ЛОНДОН. «Morning Post» даведаўся с Парыжа, што пецярбурская рада раб. і салд. прасіла тэлеграмай, каб францускі урад узяў назад забарону выдаць пашпарты францускім дэлегатам на штокгольмскую конфэрэнцію.

КОПЭНГАГА. Вярнуўшыся ў Пецярбург, Керэнскій выключыў са спіскоў арміі 4 палкі, каторые адмовіліся ісьці на фронт.

БАЗЭЛЬ. Прыбыўшые у Астрахань с Сібіру палітычные арэштанты апаведаюць, што па ўсім Сібіру народ гатоў паддзержываць новы урад толькі тады, калі ён ураз-жэ прыстане на мір. У Омску шырацца проклямації рэволюцыйных камітэтоў, у каторых апавешчаецца аддзяленьне Сібіру ад Эуропэйскай Расеі і утварэньне асобнай рэспублікі, калі ў Пецярбурзі ня згодзяцца той-час скончыць вайну.

БЭРН. 11 чэрвеня францускай палаці дэпутатоў на тайным заседаньні пададзен запрос аб рэвізіі саюзьніцкіх умоў Франціі с саюзьнікамі і асабліва аб лондонскай умові аб міры.

ЦУРЫХ. Тут ходзяць годные веры чуткі аб адбыўшайся ўжо адстаўцы італьянскаго габінэту.

ЛОНДОН (Рэўтэр). З Афін даносяць, што кароль Константын а 5 гадз. паабедзі 12 чэрвеня выехаў з Афін у Татоі.

Кароль Александар даў прысягу.

Место—спакойно.

ЖЭНЕВА. Пастанова скінуць караля Константына с трону зроблена на лондонскай конфэрэнціі саюзьнікоў 28 і 29 мая. Выпаўненьне гэтай пастановы ўжо тады даручылі Жоннару.

«Information» пішэ, што Вэнізэлёса паклічуць за галаву ураду ў Афінах.

ЦУРЫХ. Грэцкі пасол у Бэрне офіцыозна даносіць, што адрачэньне караля Константына ён лічыць толькі дачэсным, і што кароль займе ізноў сваё мейсцо, як на гэта пазволяць варункі.

ЖЭНЕВА. З Афін даносяць, што ў начы на аўторак галаза пастаўленых перад каралеўскім палацам запасных прасіў у караля пазваленьня сілай супрацівіцца адрачэньню яго. Аднак, кароль адказаў, што ён не пазволіць, каб за яго пралілася хаця бы адна капля грэцкай крыві.

ЛОНДОН. «Times» даносіць с Корынта, што караблі саюзьнікоў занялі Корынцкі перашыек і што каралеўскіе войскі не прабавалі працівіцца.

ПАРЫЖ. Газэты даносяць, што пасьля чысьленых перэгавораў з Жонарам грэцкі міністэр-прэзыдэнт Заіміс падаўся у адстаўку.

*Вільня, 15 чэрвеня.*

Нацыоналізм — гэта твор буржуазіі і капілістычнаго ладу. На грунце экономічнай конкурэнціі між капіталістамі розных нацыональнасьцей і краёў вырастае дзікая ідэолёгія ненавісьці між людзьмі, каторые гавораць рознымі мовамі, і яна агартае шырокіе кругі буржуазіі, захоплівае цёмные народные массы і паднімае старонку проці старонкі, у страшэнных войнах марнуючы жыцьцё мільёнаў людзей і векамі збіраные здабыткі народаў — духовые і матэр'яльные....

Супроць нацыоналізму найбольш ярка, найбольш энэргічна выступае сьвядомая дэмократія ўсіх народаў, выступаюць організованые работніцкіе массы. І пад той час, як у нашай старонцы буржуазія розных нацыональнасьцей вядзе між сабой барацьбу аб тое, хто мае панаваць над народнымі массамі краю, сьвядомые дэмократычные элемэнты шукаюць узаемнаго зьліжэньня, стараюцца злучыць чынные сілы паадзінокіх нацыональных работніцкіх груп, каб на сваей зямлі дабыць волю для ўсіх гаротнікоў, — усіх, хто працай крывавай здабывае свой кусок хлеба.

Выступленьне польскаго грамадзянства, аб каторым мы ўжо пісалі ў тым нумэры «Гомана» (мэмор'ял да нямецкаго канцлера аб патрэбе прылучыць наш край да Польшчы),—гэта тыповае буржуазнае выступленьне, якое мае на мэці толькі карысць тутэйшаго польскаго панства. Дый іначэй быць не магло: вядома, што польскіх народных масс, на каторые пазываецца мэмор'ял, у нашым краю німа, бо-ж ня можэм лічыць за палякоў тых несьвядомых беларускіх селян, якіх польскіе ксяндзы-нацыоналісты сілай сваей духоўнай павагі прымусілі запісывацца «ў палякі». А гэтые «робленые» палякі — такіе цёмные, што яны зусім ня могуць зразумець, якіе ціжары суліць ім «еднасць» с Польшчай, утрыманьне польскаго караля, яго двара, ды цэлых хмар польскіх чыноўнікоў, каторые залілі-бы наш край гэтак сама, як калісь залівалі яго маскоўскіе. Але мала таго, што выступленьне палякоў — шкоднае для тутэйшых народных масс: яно становіць новы грунт дзеля абастрэньня нацыональных сварак на нашай зямлі, каторые нішчаць дарэмна краёвые сілы, гэтак патрэбные дзеля ўнутрэнай творчай работы.

Шчыра дэмократычные элемэнты краю нашаго — беларускіе, літоўскіе і жыдоўскіе — павінны новай праяве нацыоналізму даць цьвёрды адпор. Але адпор гэты павінен выявіцца не ў нападках на палякоў наагул, а ў цясьнейшым еднаньні дэмократычных сіл, у адкрываньні несьвядомым народным массам вачэй на іх палажэньне і на тую дарогу, якая вядзе да праўдзівай волі.

Гэта — найлепшы адказ, які дэмократія краю можэ даць на работу польскай буржуазіі, заклятаго ворага нашаго народу і нашай Бацькаўшчыны.

---

## Каля зямельнай справы.

Здарэньня, якіе мелі мейсцо ў апошніх часах у Расеі, як і ў 1905 гаду, высунулі на першае мейсцо зямельнае пытаньне. Ад таго, як яно будзе развязано, у значнай меры залежыць увесь ход далейшых прыпадкоў у новай Расеі: пры страшэнным малазямельлі ў большай часьці чыста расейскіх губэрній, народные массы толькі тады будуць цьвёрда стаяць за новы, рэспубліканскі лад, калі народу дадуць зямлю. Іначэй селяне заўсёды будуць станавіць вельмі няпэўны элемэнт.

Аднак, трэба сказаць, што ня ўсё расейскае гасударство мае адзінакавые варункі экономічнаго жыцьця: землі, каторые перш, чым іх забрала Расея, мелі незалежны быт, маюць і цяпер адменные патрэбы, адменные дамаганьня і адменна намечаюць у сябе развязку зямельнаго пытаньня. Украіна, напрыклад, падала ўжо свой голас за тое, што ў яе межах справу гэту павінен развязаць свой устаноўчы сэйм.

Пры агульным кірунку да нацыоналізації вялікіх дворных, казённых, царкоўных і іншых зямельных абшароў, жаданьне Украіны лёгка зразумець: яна хочэ, каб зямельнае багацьце, так ці сяк перайшоўшае на ўласнасць народу, аставалося бы цэлком у руках краёваго самаупраўленьня, а не цэнтральнаго, агульна-расейскаго ураду. Дый, наагул, у розных краёх, якіе ўходзяць у склад Расеі, грамадзкая гаспадарка зямлёй павінна быць розная, залежне ад мейсцовых варункоў.

Вось, вельмі цікава з гэтай прычыны кінуць вокам на палажэньне зямельнай справы ў нашым краю. У нашых руках—вязанка статыстычных данных расейскаго цэнтральнаго статыстычнаго камітэту за 1905 год с пяці беларускіх губэрній.

Дворнай зямлі найбольш у губэрнях Мінскай, Магілеўскай і Вітэбскай. У Мінсчыне двары маюць 65,6% усіх зямельных абшароў, у Магілеўшчыне 56,1%, у

Вітэбшчыне — 52,6°/o. У Віленшчыне найвялікшы процэнт — у паветах Вілейскім і Дзісенскім (54—56), найменшы — у Троцкім і Сьвенцянскім (31—35). Найменш дворнай зямлі — у Гродзеншчыне, дзе па паветах найвышэйшы процэнт мае Кобрынскі павет (—47,8), найменшы—Сакольскі (16,4), пры сярэднім на ўсю губэрню 36,7°/o.

**Гасударственые землі** найвялікшай цыфры даходзяць у Гродзеншчыне: 17°/o. У Віленшчыне іх толькі 11,5°/o, у Міншчыне — 10,1°/o, у Вітэбшчыне—8°/o і ў Магілеўшчыне—4,4°/o. Пры гэтым па паветах найвялікшы процэнт даюць Пружанскі (31), Троцкі і Слонімскі (24), Сокольскі (22) і Гродзенскі (21).

**Селянскіе землі** дзеляцца на дзьве групы: надзельные і прыкупленые.

**Надзельнай зямлі** маюць найболей селяне у Гродзеншчыне: 46,3 працэнтоў усіх зямель губэрні. Паводлуг паветоў: найбольш у Сакольскім (61,6) і Беластоцкім (51,8), найменш — у Пружанскім (40,7) і Слонімскім (41). У губэрнях Віленскай, Вітэбскай і Магілеўскай селянскіе надзельные землі становяць каля 40°/o, у Мінскай — толькі 24,3°/o.

Процэнт **прыкупленых** зямель прыпадае па губэрнях як раз наадварот: дзе менш было надзельнай, там быў вялікшы голад на зямлю і больш яе куплялі. Гэтак найбольш прыкупілі селяне Магілеўскай губ.: 625,883 дзесяціны, або 40,3°/o надзельнай зямлі. На другім мейсцы стаіць Міншчына: тут прыкуплено 484.219 дзес., або 24,9°/o надзельнай. Далей: Вітэбшчына — 359.457 дзес. (22,6°/o надзельнай), Гродзеншчына—243.160 (16,5°/o) і Віленшчына — 184.413 (14,4°/o).

Лічучы на кожын селянскі двор, селяне сярэднім лікам прыкупілі:

у Магілеўшчыне — 3,3 дзэс.
„ Гродзеншчыне — 2,7 „
„ Вітэбшчыне — 2,6 „
„ Міншчыне — 2,3 „
„ Віленшчыне — 2 „

Гэтак на селянскі двор надзельнай і прыкупленай зямлі разам прыпадае сярэднім лікам:

у Гродзеншчыне — 19,2 дзес.
„ Віленшчыне — 15,5 „
„ Вітэбшчыне — 14,1 „
„ Магілеўшчыне — 11,5 „
„ Міншчыне — 11,4 „

Трэба, аднак, сказаць, што селянскіе дворы ад часу надзяленьня селян зямлёй пры касаваньні прыгону вельмі раздрабіліся, і число незалежных гаспадарак — шмат вялікшае, чым офіцыальнае число двароў. З гэтай прычыны і размеры гаспадарак—папраўдзі шмат меншые, чым прыпадае зямлі на двор. Напрыклад, паводлуг апошняй статыстыкі бышага віленскага генэрал-губэрнатарства, у Ашмянскім павеці селянскіе двары гэтак пабіты, што 75°/o гаспадарак маюць менш за 3 дзесяціны! — Усё-ж такі сабраные тут цыфры згруба рысуюць зямельные адносіны ў Беларусі і даюць магчымасць зрабіць адпаведные вывады аб тым, у якім кірунку павіна быць тут развязана зямельная справа.

*Г. Б.*

# У Вільні і ваколіцах.

× **Працэсія на Божае Цело.** С прычыны вельмі цяжкіх часоў, якіе перэжывае нашае места, справа устройства сёлетняй працэсіі на Божае Цело доўга важылася: было вельмі многа галасоў проці яе — затым, што устройство працэсіі вымагало надта вялікіх выдаткоў на белые опраткі, ўстужкі: прыбіраньне дамоў і т. д. Аднак, перэважыла думка, што, ня гледзячы ні на якіе кошты, працэсію трэба устроіць, і яна адбылася, як і ў тые гадн.

Вельмі сумным вокам пагледалі на працэсію каталікі-беларусы, для каторых на ёй мейсца не было: кс. Міхалькевіч, ня гледзячы на просьбу беларускаго грамадзянства, каб беларусам быў дадзен хаця адзін касьцёл у Вільні, касьцёла не даў, і гэтак тутэйшые каталікі-беларусы распылены па ўсіх парахвіях места ды ня могуць згуртавацца у адным — сваім касьцелі, а без свайго касьцёла і учасьце у агульнай працэсіі — немагчымо.

× **Жыдоўская ахронка.** Адкрытая гэтымі днямі пры Вялікай вул. № 17 ахронка мае ўжо больш за 200 жыдоўскіх дзяцей. З гэтай прычыны прыходзіцца адкрыць аддзел у другім мейсцы.

× **У местовым лёмбардзі.** Адзежа і бялізна прынімаецца ў местовым лёмбардзі толькі ў аўторкі і пятніцы. Пры гэтым трэба падаць заверэньне, што тые рэчы былі ў дэзынфэкціі. Да 7 гадз раніцай іх можна ўдзеля гэтаго без ніякай платы аддаваць у местовую дэзынфэкцыйную камэру, II Партовая 10.

× **Забарона.** Загадам Начальніка Упраўленьня Litaŭen забаронено паліць сухую траву, кусты і т. п. і раскладаць агонь на адкрытых мейсцах. За неслухмянасць суляцца цяжкіе штрафы. За дзяцей адказываюць бацькі, або апекуны.

× **Спажыўные справы.** «Wilnaer Zeitung» даносіць, што ад 15 чэрвеня у народных страўнях маюць выдаваць порціі, павялічэные на 20°/o.

× **Скорая помач** ад 4 да 10 чэрвеня дадзена ў 80 здарэньнях. Карэтка выежджала 60 разоў.

× **«Хрышчэньне» малака.** За «хрышчэньне» малака пакараны: ВераАроновіч, Ціхая 13; Абрам Бакалерыскі, Радунская 41; Вэроніка Недзьведзкая, Маркуце 18; Сіва Воўкавыская, Субоч 29.

× **Двайное душэгубство.** У домі № 42 пры Зарэчнай вул. знайшлі твупы забітых кабеты і 8-гадовай дзяўчынкі. Трупа кабеты нельга распознаць, але гэта, здаецца, будзе прапаўшая ў марцы Бутрымовіч, 48 гадоў. Думаюць, што убіўца — Зофія Шымко, каторая счэзла ад 7 чэрвеня разам са сваімі сынамі 9 і 13 гадоў і дзяўчынкай 9 гадоў.

× **Пакінутае дзіця.** 4 чэрвеня, а 1/210 гадз., на Острабрамскім пляцу знайшлі пакінутаго хлопчыка 11 месяцоў. Шукаюць матку.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 10—11 | + 24° | + 10° |
| 11—12 | + 25,8° | + 11,5° |
| 12—13 | + 21,7° | + 10° |

# З усяго Краю.

**Мораторыум для вэксэлёў і чэкоў.**

Па загаду Глаўнакамандуючаго на Ўсходзі срокі вэксэлёў і чэкоў прадоўжэны да 30 верэсьня 1917 г.

БЕЛАСТОК. Тут адбылася, як і кожын год, працэсія на сьвято Божаго Цела. Народу было вельмі многа.

КРУШЫНА, Воўкавыскаго пав. 26 лістапада 1916 г. на Праксэду Лапінскую напаў яе сусед, Ян Кідзінскі, каторы аглушыў яе і зрабаваў 475 руб. Суд прызнаў, што Кідзінскі памыкаўся забіць сваю ахвяру, і засудзіў яго на сьмерць.

ВЕЧКАНЦЫ, пад Вільняй. У начы на 9 чэрвеня тут укралі 4-гадовую кабылу.

СУВАЛКІ. У тую нядзелю ў Сувальскім павеці разыгралася страшэнная навальніца. Забіты некольні душ.

КРЫВЭ, Сувальск. пав. Пярун забіў хлопчыка, каторы пасьвіў карову, і тую карову.

ШВЭЙЦАРЫЯ. Ад маланкі запалілася хата селяніна К. і згарэла разам са сьвіньнёй і парасятамі.

# Рэволюція у Расеі.

ЛОНДОН. «Times» даносіць с Пецярбурга:

Пакупная вартасць рубля паменшала ў шэсць разоў. Шмат дзе людзі вярнуліся фактычна да заменнай таргоўлі.

У Маскве і іншых прамышленых цэнтрах—забастоўкі.

Паводлуг прэдлажэньня Расеі, **конфэрэнція аб мэтах вайны саюзьнікоў** адбудзецца ў Парыжы **24 чэрвеня.**

Порція цукру паменшэна да паўфунта на душу ў месяц. Сітны хлеб і цесткі пячы забаронено.

ЛОНДОН. (Рэўтэр). Англіцкі урад даў адказ на расейскую ноту **аб ваенных мэтах саюзьнікоў**, кажучы, што ў пачатку вайны англіцкі урад меў на мэці бараніць баспечнасць усіх старон і дабіцца спаўненьня міжнародных абавязкоў. Да гэтых мэт у часі вайны далучылася ешчэ адна: вызваленьне народаў, якіе стогнуць пад чужацкім ярмом. Гэта і ёсць мэты, да якіх кіруецца англіцкі народ, і англіцкі урад верыць, што яны згодлівы с прынцыпамі, прынятымі ўсемі саюзьнікамі. Калі расейскае правіцельство хочэ, дык англіцкі урад гатоў перэглядзець іх і, калі трэба, змяніць.

ПАРЫЖ. Францускі урад аддаў ў Пецярбурзі ноту с тымі-ж заявамі, што і ў англіцкай ноці, кажучы, што Францыя будзе бароцца за паварот Эльзаса-Лётарынгіі, адарваных калісь ад яе гвалтам.

ЛОЗАННА. «Gazette de Lausanne», якая мае зносіны с францускім урадам, рэзка нападае на Расею, выгаварывае расейскай арміі яе бязчыннасць і заканчывае сваю стацьцю славамі:

„Расейская армія ў часі вайны вела сябе зусім не так, каб можна было шкадаваць выхаду яе с паміж саюзьнікоў. Падмога Злучэных Штатоў верне нам магчымую утрату масквічан“.

ШТОКГОЛЬМ. Расейскі соц.-дэм. Цыон сказаў у аднэй гутар-

# ЛІСТ
## да п. В. Ластоўскаго.

(з нявыданых твораў Максіма Богдановіча).

Хоць значыць гэтае несць у Афіны совы,—
Усё-ж такі пішу да Вас, Вацлаве, словы
Нясьмелаго ліста.

Даўно ўжо знікнуў дзень,
Ўжо стаўні замкнуты, гарыць агонь і цень
Ад галавы маёй са сьценкі мне ківае.
У чорных рамках там сувора выглядае
Пісьменнікоў чэрга; з іх кожны—блізкі друг
Хоць і не бачэны у вочы. Сьветлы круг
Над імі кінула газьніца. Пазіраю
Я часам на яго, а там ізноў да краю
Стала прыходзіцца схіліцца і пачаць
На белым аркушу далей ліста пісаць.

Аб драмах Пушкіна кажу я ў ім. Ня Мэрі,
Не «Фаўст», не «Цар-Барыс», а «Моцарт і
[Сальері»
Варушыць мозаг мой. Здаецца мне, што тут
Сальері атрымаў несправедлівы суд.

Халодным розумам праняўшыся, натхненьне
Ен мусіў тым губіць,—так кажэ абвіненьне.
Сальері ў творчасьці усё хацеў паняць,
Ва ўсім упэўніцца, усё абмяркаваць,
Абдумаць способы, і матэр'ял, і мэту, —
І горача любіў сваю сьвядомасць гэту.
У творчасьці яго раптоўнаго німа.
Аснова да яе — спакойная дума.
Але, але... Аднак, што шкодзіць тут нат-
[хненьню?
Прыемнае дае Сальері уражэньне.
Цадобны знічцэ ён: у іскрах над зямлёй
Яна ўзрэзае змрок лукою залатой,
Гарыць, бліскучая, ўся у агню нясецца,
А ў глыбіні сваёй халоднай астаецца.

Уменьне да ігры Сальері здабываў
Праз мерны, нудны труд; ці спраўдзі забіваў
Ен гэтым талент свой, як бачна з думак
[драмы?
Адкажэ йскрыпка нам. Стакатто, фугі, гаммы
Шмат год калісь на ёй Сальері вывадзіў
І моцна йграньнем тым іскрыпкі зык змяніў.
Ямчэй яна гудзіць. Пявучых згукоў сіла
Праз доўгіе гады яе перэрабіла,
І тымі сьпевамі уся напоена
Навекі чулаю зрабілася яна.
Няўжо-ж душы жывой маглібы зыкі сьпева
Ў Сальері не змяніць, калі змянілі дрэва?

Не! Працай гэтаю сябе ён развіваў.
Сальері—верны раб, каторы не схаваў
Свой талент у зямлю. Хай судны час на-
[стане —
Спакойна Музе ён і проста ў вочы гляне,
І будзе за любоў да здольнасьці сваёй
Апраўдан Музаю і ўласнаю душой.

* * *

Так сама робіш ты, дума, і у паэта
Красьнейшым кожын твор. Прывет табе за
[гэта!
Прывет мой і табе, штодзённы рупны труд,—
Гатуеш радасць ты ад творчэскіх мінут.
Табе прывет нясу, ласкавая Камэна, —
Натхненьнем упаіў нас ключ твой Гіппокрэна.
Прывет да здольнасьці пяе душа мая
І, вершы, вам прывет складаю ўрэшці я.

цы: „Нідзе у Эўропі расейская рэволюція не адбілася так сільна, як у Англіі. Расейская рэволюція вызвала поўную еднасць усіх работнікоў у Англіі. Па ўсей старане адбываюцца вялізарные дэмонстраціі за мір. У Глязго 70.000 работнікоў пастанавілі звярнуцца да ўсіх народаў с прызывам зніштожыць капіталізм і зрабіць згоду. Другая забастоўка работнікоў у окрузі Клейт паставіла край наперадодні рэволюціі. Урэшці, конфэрэнція ў Лідсе злучыла ўсе работніцкіе організаціі Англіі. Рэзолюція іх вітае расейскую рэволюцію, дамагаецца міра без аннэксій і контрыбуцій, ды поўнай грамадзкай волі па прыкладу Расеі і прызывае ладзіць ва ўсіх местох рады раб. і салд., дзеля правядзеньня рэформ і міра. У Расеі пагляд на Англію зусім перэмяніўся. Калісь усе лічылі Англію прыхільнай да волі ў Расеі і недасьціглым ідэалам; цяпер бачуць, што чым даўжэй трывае вайна, тым болей англіцкі урад прынімае навыкоў самядзержавія. На заседаньні рады раб. і салд. было сказано даслоўна гэтак: „Англія хочэ нашай згубы, але мы не такіе дурные і не дамо Англіі праглынуць нас“.

АМСТЭРДАМ. Пісьмы з Расеі ў Голандзію праглядаюць цяпер расейскі і англіцкі цэнзары.

МАСКВА. «Утро Росіі» даносіць, што прэдстаўнік рады раб. і салд., соц.-рэв. Авксентьев, назначаецца за дырэктара дэпартамэнту ў міністэрстві заграні̇чных спраў. Гэтак, уся **дыплёматычная карэспандэнція** між урадам і саюзьнікамі будзе прахадзіць **цераз рукі прэдстаўніка рады раб. і салд.**

У Кіеві ладзіцца цяпер **генэральны штаб украінскай арміі**. Ен дамагаецца ад ураду ўраз жэ апавесьціць аўтономію Украіны, організаваць асобную украінскую армію і украінізаваць чорнаморскі флот.

ШТОКГОЛЬМ. У Пецярбурзі адбыліся два з'езды соцыял-рэволюцыонероў: пецярбурскі і паўночнай Расеі. На абодвых востра нападалі на Керэнскаго, і было заяўлено, што **ня можэ быць гутаркі аб наступленьні**, пакуль саюзьнікі адкрыта не заявяць аб сваіх ваенных мэтах.

ШТОКГОЛЬМ. Прызыў Керэнскаго да наступленьня спаткаўся з адпорам паасобных вайсковых часьцей. Войскі, якіе стаяць у Ораніенбаўме, у сваей рэзолюціі вівацяць Керэнскаго у жаданьні стацца дыктатарам і заяўляюць, што служаць не буржуазіі і Керэнскаму, а расейскаму пролетарыату. Шосты рэзэрвны батальён у Пецярбурзі падаў востры пратэст проці прызыва Керэнскаго прыгатаўляцца да наступленьня і клічэ ўсіх прылучыцца да гэтаго пратэсту.

ГЭЛЬСІНГФОРС. Орган тутэйшых большэвікоў «Волна» пішэ, што салдаты аднаго палка адмовіліся прыняць француские ордэры, бо апошніе маюць на мэці вызваць у салдатоў зьвярыные інстынкты

ЛОНДОН. (Рэўтэр). Палажэньне у Кронштаці такое: артылерыя стаіць за тымчасовы урад і пецярбурскую раду раб. і салд., а пяхота—за сваё кронштацкае правіцельство.

ПАРЫЖ. „Petit Parisien“ пішэ: Часць расейскаго балтыцкаго флоту, стаяўшая у Б'ерку, падчынілася кронштацкаму рэволюцыйнаму правіцельству.

«День» даносіць, што 172 салдаты, афіцэры і дактары—жыды с пешаго палка № 618 переведзены у абозы.

«Temps» пішэ, што баяцца агульнай **забастоўкі ўсіх работнікоў у Расеі**, каторые дамагаюцца 6 гадзіннаго рабочаго дня. Орган рады раб. і салд. намаўляе работнікоў адрачыся ад сваіх нямудрых і непамерных дамаганьнёў.

ШТОКГОЛЬМ. Тымчасовы урад загадаў зрабіць новы лекарскі агляд усіх, звольненых дагэтуль ад ваеншчыны.

З'езд селян прыняў рэзолюцію, забараняючы селянам прывазіць прадукты у Кронштадт, калі тамтэйшы урад не падчыніцца тымчасоваму ураду ў Пецярбурзі.

ЛЮГАНО. «Corr. d. Sera» даносіць, што сэпаратыстычны рух у Кронштаці трывае далей. Цэрэтэлі і Скобелев зусім неправільна заявілі, бытцым кронштацкая рада прызнала тымчасовы урад. Тымчасовы урад вельмі клапоціцца аб тым, каб вярнуць сабе пашану у Кронштаці.

У Архангельску мае быць забастоўка партовых работнікоў.

У Пецярбурзі пачалася забастоўка ў «Речы»,

Орган староннікоў Леніна, «Правда», с кожным днём здабывае ўсё большую вагу.

ПЕЦЯРБУРГ Праектаваны перанос фабрык с Пецярбурга у правінцію не атрымаў згоды рады раб. і салд., каторая бачыць у гэтым палітычны крок дзеля таго, каб паменшыць уплыў рады на работнікоў. Міністры соцыялісты станоўча выступілі проці гэтаго, а работнікі зрабілі вялізарную дэмонстрацію. Думаюць, што гэты плян прыдумаў Керэнскій.

ШТОКГОЛЬМ. Маршалак рады раб. і салд., **Чхэідзэ, цяжка захварэў** і ня можэ спаўняць сваіх чыннасьцей.

ЦУРЫХ. Дзеля палітычных прычын рада раб. і салд. заняла варожае да новаго глаўнакамандуючаго, Брусілова, становішчэ.

Рада раб. і салд. у Шліссэльбургу выбрала Леніна за свайго прэдстаўніка ў пецярбурскай радзі раб. і салд.

ПЕЦЯРБУРГ Выбары радных у местовую думу на аснові агульнай падачы галасоў далі пабеду соцыялістычнаму блоку: соцыял-рэволюцыонероў, соцыял-дэмократоў і работніцкай партыі. Кадэты асталіся на другім мейсцы.

ЛОНДОН „Times“, «Morning Post» і «Daily Chronicl» даносяць, што ў Пецярбурзі з'явіліся аружные казакі. Гэта зрабіло на жыхароў, знаючых іх з даўнейшых часоў, сільнае ўражэньне.

„Morning Post“ пішэ: „Скора трэба ждаць павароту ладу“.

«Times» кажэ, што мае быць да асноў перастроено Пецярбрскае Тэлеграфнае Агенцтво.

Выступленьне чорнасоцепоў вызвало ўладжэньне спэцыяльнай сьледчай камісіі, каторай дадзено право рабіць обыскі і арэшты. Рапарты гэтай камісіі вызвалі выдаленьне з арміі вялікаго чысла вышэйшых афіцэроў.

ЦУРЫХ. Украінскае бюро ў Кіеві даносіць, што больш за сто генэралоў за свае проціроволюцыйные пагляды выдалены са сваіх мейсц.

МАСКВА. «Русск. Сл.» пішэ, што генэрал Гурко ў пісьме да тымчасоваго ураду крытыкуе некаторые ваенные крокі апошняго. Рэзультатам гэтаго была адстаўка Гуркі

ПЕЦЯРБУРГ. Электрычные таварыствы ў Пецярбурзі аддадзены на ўласнасць места.

ЛОНДОН. Спаўняючый павіннасьці пасла Набоков заявіў, што с прычыны марской блокады расейскіе эмігранты ня могуць з Англіі ехаць у Расею.

# З усяго сьвету.

МАДРЫД. Міністэрство Прыэто падалося ў адстаўку.

Дато улажыў новае міністэрство.

ГААГА. С Шанхаю даносяць, што войскі паўстанцоў стаяць ужо у 30 кілёмэтрах ад Пэкіна.

ЛОНДОН. Англіцкі урад маніцца сазвадь ірландзкі конвэнт, зложэны са 101 члена, с-паміж каторых урад назначыць 15. Партыя нацыоналістоў, сінн-фэйнэроў, уніоністоў з Ульстэра і уніоністоў с палудзеннай Ірландзіі будуць мець па 5 членоў. Работніцкая партыя — 2.

У апошнюю ноч у Дубліне арэштован сінн-фэйнэр Прынэтт. У стычцэ забіт паліцэйскі інспэктар.

КАРЛЬСРУЭ. У зрэформованую верхнюю палату маняцца прызваць і прэдстаўніка работнікоў. Міністэр Бодманн сказаў, што адгэтуль ні аднаго соцыяліста ня будуць прасьледаваць і з ім ня будуць паступаць іначэй, чым з усімі, с прычыны яго палітычных паглядоў.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

**Нямецкіе апавешчэньня:**

**12.VI. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: На узбярэжжы Фляндрыі агонь артылерыі на Іпры і пры Дув крапчэў. Паабедзі на ўсходзі ад Мэссіна англіцкая кавалерыя атакавала нашы лініі. Назад вярнуліся толькі разбіткі. У завароці Ленс і пры Скарп агонь узмацаваўся. Пры Фромэль, Нэв-Шапэль і Арле адбіты англіцкіе патрулі.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Французы вялі контратакі проці занятых намі 10 чэрвеня акопаў пры Сэрні. Яны адбіты штыкамі і агнём.

**Усходні тэатр:**

На Дзьвіне, ля Смаргоні, Баранавіч і асабліва пры Бэрэжанах і Нараёўцы баевая чыннасць ізноў ажывілася.

*Македонскі фронт*: Між возерам Прэсба і Чэрнай — сільны агонь артылерыі.

---

У маі мы утрацілі 79 самалётаў і 9 шароў. 114 варожых самалётаў збіты за нашымі лініямі, 148—за варожымі, ды зніщчэны 26 лятучых шароў, а 23 самалёты прымушэны самахоць спусьціцца.

**13.VI. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: У завароці Іпра і пры Дув—сільны агонь артылерыі. На заходзі ад Варнэтон адбіты агнём пяхоты і артылерыі англіцкіе атакі, ведзеные паабедзі і вечарам. На заходзі ад дарогі Арра—Ленс, пасьля сільнай артылерыйскай падгатоўкі, вялікіе англіцкіе сілы пайшлі у атаку, але сільнай контратакай і ў вострых бітвах наручные гранаты былі адбіты.

Александрыйскі верш! Ты ціхі, як Эрэбус,
Хаваючый агонь пад сьнегам. Хто in rebus
Musarum знаецца, ня можэ не любіць
Тваёй паважнасьці. Таму-то аднавіць
Хацелося табой мне звычай пазабыты
Эпістолы пісаць. Ну, а цяпер спачні ты.

**Максім Богдановіч.**

1913 г.

# Крўцель.

Паміж абмерзлаго хмызьняку з дубальтоўкай у руках ціхінька прабіраўся паляўнічы.

«Хоць бы зайчыка падвудзіць», — азіраючыся на бакі, мысьліў ён.—«Ад раньня блукаюся, блукаюся, і нічога. Шкадую, што пайшоў, лепш сядзеў бы ў хаці, або ў царкву схадзіў: гэткае сьвято Міколы угодніка, а я вандрую, як воўк. Эх, сорам, чэлавечэ: на Бога забыўся!» — стыдзіў сам сябе.

Так гамонячы с сабою, пачуў здалёку працяжны царкоўны звон.

«Во і звоняць, хто ў Бога верыць, а я, старэцкая пуга, туляюся па гэтай цемражы і лупаю вачыма. Схаваўся бы ад сораму, ды німа гдзе»...

Толькі гэта прамовіў, як разам каўзануліся ногі, і ўся фігура тырчаком паляцела ў нейкую круч.

«Во, гдзе кара Боская! во яна!» — са слязьмі казаў ён, пазіраючы, як кажан са студні ў неба. — «Загінуў, як відзіш, ніхто і ведаць ня будзе, гдзе падкруціў сваю грэшную галоўку...»

Спрабаваў было карапкацца: ані блізка! Ногі коўзаюцпа, утрыму німа. Крычаў— нічога, толькі рэха разлягаецца, бытцым насьмехаецца над ім. Пачаў плакаць, а пасьля стаў на каленкі, злажыў рукі і давай шчыра маліцца сьвятому Міколі, каб злітаваўся над сіротамі ды вызваліў з бяды. Маліўся доўга, абецаючы час ад часу паставіць самую найбольшую і найгрубейшую сьвечку, змяніць рызы, даць грошы на царкву....

Гледзючы у выш, паляўнічы бачыў, што зжаўцело небо і пачынае цярушыць сьнег. Збіралася завіруха, шалёная завіруха.

«Можэ і ратунак мой» — радаваўся ён. — Пэўне дайшла малітва, пашкадавалі маіх дзетак».

Сьнег валіў, як з меха; цэлымі камамі паляўнічы згортываў яго пад ногі і сілкаваўся вылезьці.

Нарэшці сабраў сілы, паступіўся, як мог вышэй, учарэпіўся за корч, што тырчаў над галавой, гульк — і вылез.

«А, набрыдзь! — плюючы на бакі, марматаў ён. — Каб ня літасць Міколы, пэўне загінуў бы! Трэба-ж: убіўся, як муха у сьметану, а ахвяр-жэ, ахвяр наабецаў, як успомніць іх, — але, як той казаў, чаго толькі з ляку чэлавек не накажэш: так і я. Трэба бегчы, німа часу».

Пацер бедак вушы і пайшоў, ухмыляючыся, да дому....

**Галубок.**

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На паадзінокіх адрэзках фронту на Эн і ў Шампані—ад часу да часу крапчэў агонь артылерыі.

**Усходні тэатр:**

**На ўсходнім тэатры і македонскім фронці** — без вялікшых бітв.

## Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА. 12. VI. **Італьянскі тэатр:** Бітвы ў ваколіцах «Сямі Грамад» трываюць далей. Нашы войскі адбіваюць наступленьня штыкамі і ручнымі гранатамі.

**Албанскі тэатр:** Італьянскіе самалёты абкідалі бомбамі Дураццо і забілі некалькіх албанцоў.

ВЕНА. 12.VI. **Італьянскі тэатр:** Спадзеваная атака 6 італьянскай арміі на плоскагоры «Сямі Грамад» і ў даліне Суганы пачалася. Пасьля колькідзённай артылерыйскай падгатоўкі ворагі кінулі сваю пяхоту у штурм між Ас'яго і Брэнтай. Пры Ас'яго італьянцам часова ўдалося ўварвацца на нашы акопы. Вечарам яны выкінуты адтуль. У даліне Суганы ўсе італьянскіе штурмы гэтак сама адбіты агнём і штыкамі. Нашы лятуны збілі два самалёты ворагоў.

ВЕНА. 13.VI. **Італьянскі тэатр:** На плоскагоры «Сямі Грамад» ворагі ўчора вечарам пачалі свае атакі. Яны адкінуты з надта вялікімі стратамі.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. 13.VI. Нашы лятуны **абкідалі сягоньня бомбамі Лондон.**

ЛОНДОН. У часі апошняго наступленьня пры Іпры артылерыя толькі аднэй англіцкай дывізіі выпусьціла 180.000 стрэлоў с палевых і 46.000 стрэлоў с цяжкіх гармат.

БЭРЛІН. (В. Т. Б.). Нашы лятучые эскадры 10 чэрвеня абкідалі бомбамі Лебару і Арэнсбург, у палудзеннай часьці острава Эзэля.

У Атлянтыцкім акіані нашы падводные лодкі ізноў затапілі 23.327 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У Англіцкім каналі і ў Сяродземным моры ізноў затоплено больш 40.000 танн.

БЭРЛІН. Затопленай, паводлуг апошняго данясеньня, пшаніцы хапіло бы на месяц для пяці мільёнаў душ. Дзеля перавозкі яе чыгункай трэбало-б 50 поездоў па 80 асей. Па гэтых данных можна судзіць аб „працы" нямецкіх падводных лодак.

## Грэцкая трагедія.

АФІНЫ (В.Т.Б.). 12.VI. **Кароль Константын адрокся ад трону** на карысць свайго сына, Александра.

У панядзелак перад абедам глаўны камісар саюзьнікоў, Жонар, меў з міністрам-прэзыдэнтам Заімісам гутарку, ў каторай ад імі саюзьнікоў трэбаваў адрачэньня караля і назначэньня на яго мейсцо насьледніка, выключаючы старшаго сына.

Кароль высказаў жаданьне паехаць на англіцкім параходзі цераз Італію у Швэйцарыю.

АФІНЫ. Захват італьянцамі Яніны вызваў ўсюды глыбокае ўражэньне.

ЛЮГАНО. Заняцьце Яніны павінно прымусіць Грэцію злучыцца с саюзьнікамі.

АФІНЫ. Міністэр - прэзыдэнт Заіміс прыняў дэпутацію з Эпіра, каторая высказала свой боль с прычыны заняцьця Яніны.

Грэцкие ўласьці перайшлі з Яніны у Арту.

ПАРЫЖ. Саюзьнікі заявілі італьянскаму ураду, што прэтэнзіі сэрбоў і чорнагорцаў на Албанію трэба здаволіць.

ЛОНДОН (Рэўтэр). Заяўлены італьянцамі пратэктарат над Албаніей—чыста ваенны крок. Пытаньне аб будучыне Албаніі будзе развязано згодне з рэзолюціями конфэрэнціі ў Лондоні.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Рэдактар Язэп Салавей.